PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1820) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 31 САКАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

## ГАЛЮКС

Фірма Галіны Анафрыюк „Галюкс“ (вядомая сваім спонсарствам у паэтычным конкурсе Беларускай рэдакцыі Беластоцкага радыё) знаходзіцца ў квартале Кляосін (першы прыпынак за чыгуначным пераездам). Сам квартал забудаваны пышнымі прыватнымі рэзідэнцыямі — свет разнастайнага маштабу капіталістаў. У будынку фірмы „Галюкс“ ішоў якраз рамонт. Махнуўшы рукою на гэтыя непрадбачаныя акалічнасці, я падаўся ў кабінет кіраўнічкі.

Прадпрыемства Галіны Анафрыюк складаецца з гуртавога складу вопраткі ды з невялікай швальні. Усяго шэсць працаўнікоў (разам з кіраўніцтвам). Філасофія гуртавога складу не здаецца быць надта мудрагелістай. Гуртавік купляе ад прадуцэнта тавары па нейкай цане. Сам назначае новую цану, тую, па якой купяць ад яго гэтыя тавары крамы. Розніца паміж абедзвюма лічбамі складаецца на прыход ці, як гэта называюць у падручніках эканоміі, на дадатковую вартасць альбо прыбытак. Вось і ўсё. Зразумела, што трэба яшчэ мець добры нюх і абарочваць такім таварам, які не будзе залежвацца на складзе. Але ў гэтым то і ўся справа.



*Галіна Анафрыюк.*

Гуртавы склад „Галюкс“ дзейнічае ад верасня 1990 года. Знаходзіцца, як адзначыла спадарыня Анафрыюк, на шляху паступовага развіцця. Важна, каб не абмяжоўвацца толькі пашыраннем рынкаў, на якіх дзейнічае фірма, але таксама звяртаць увагу на самадасканаленне саміх працаўнікоў. У краіне стрымгалоў мяняюцца законы, што адносяцца да гаспадарчай дзейнасці. Калі я запытаў, ці фірма мае юрыста, які б наглядаў за гэтым аспектам справы, Галіна Анафрыюк адказала, што ёсць адна асоба, якая дапамагае ёй у сапраўды заблытаных пытаннях, але ўвогуле то яна сама імкнецца, каб авалодаць усімі неабходнымі ёй юрыдычнымі ведамі. На юрыстаў не трэба зашмат спадзявацца. Сама лепш, калі ў адной галаве засяродзіць і гандлёвы вопыт і неабходныя для гаспадарчай дзейнасці юрыдычныя веды. У сувязі з гэтым запісалася яна на заняткі ў варшаўскай школе для бізнесменаў. Заняткі вядуцца ў суботы і нядзелі. Якая карысць ад гэткай школы? Што ж, шмат у чым пацвярджае яна жыццёвыя дасведчанні спадарыні Ана-

(Працяг на стар. 4)

## ЦІ БУДУЦЬ У ГМІНАХ ЛЕКАРЫ?

Клопат са службай здароўя ў нашых гмінах агульнавядомы. Не ва ўсіх гмінных асяродках „лекарскі склад“ укамплектаваны. Калі з лекарамі агульнай спецыялізацыі — інтэрністамі — справы выглядаюць больш-менш прыстойна, то лекараўспецыялістаў — стаматолагаў, педыятраў, гінеколагаў — амаль няма. Зразумела, што і з абсталяваннем лекарскіх кабінетаў на ўсходняй паласе Беласточчыны не вельмі багата. Пакуль што служба здароўя трымаецца за кошт дзяржаўных сродкаў. Але ў перспектыве двухтрох гадоў і ў службе здароўя наступіць прыватызацыя. Ці гмінам ад гэтай прыватызацыі стане лепш? Напэўна, не адразу. Ахвотных на працу ў малым мястэчку і, тым больш, у вёсцы яшчэ не відаць. Лекары, якія зараз засталіся без працы, пакуль што выязджаюць падзарабіць на Захадзе, працуючы, зразумела, не ў сваёй прафесіі.

Думка аб тым, каб звярнуцца за дапамогай да мінскіх лекараў, нарадзілася месяцаў некалькі назад, калі на Беласточчыне пабываў адзін з іхніх прадстаўнікоў — Аляксандр Цярэшчанка з Мінска. Тое, што год-два таму магло падацца нечым фантастычным, немагчымым, у сённяшняй сітуацыі выглядае даволі рэальна. Справа тут у чым? Перш-наперш у фінансавай выгадзе для беларускіх лекараў. Тое, што яны могуць зарабіць у нас, пералічанае на рублі ці нават на долары, складае суму, якой не пагрэбує нават чалавек з прафесарскім званнем. Другая справа — шмат у якіх гмінах войты дыспануюць добра абсталяванымі кватэрамі, могучы запэўніць „свайму лекару“ прыстойныя ўмовы жыцця. Паводле ацэнкі А. Цярэшчанкі, магчыма таксама пераадолець усе фармальна-адміністрацыйныя цяжкасці ў Мінску, каб паспрыяць прыезду ахвотных медыкаў на Беласточчыну. Дзеячы Беларускага дэ-

(Працяг на стар. 4)



прыемнага святочнага адпачынку нашым чытачам жадае „НІВА“



## ПРА БЕЛАРУСЬ У ВАРШАВЕ

25 студзеня 1991 г. дацэнт Анджэй Рахуба прачытаў у Варшаўскім універсітэце даклад на тэму „Беларускія землі пасля Люблінскай уніі“. Даклад быў літаральна адчытаны і меў характар сухой лекцыі, з якой можна было даведацца галоўным чынам пра польскія ўплывы, паланізацыю, каталіцызацыю м.інш сілавую (ў часе уніі на 2,5 мільёна насельніцтва было 1,5 мільёна беларусаў, а на пераломе XVII і XVIII стагоддзяў — на 5 мільёнаў стала іх толькі 40%). У эканамічных адносінах дакладчык звярнуў увагу на наданне каралём 3/4 зямлі магнатам і шляхце, ды апрача эканамічнага прыгнёту падкрэсліў вялікія вынішчэнні насельніцтва войнамі. Паланізацыю ацаніў станоўча, што ў яго перакананні спрыяла развіццю культуры. Вялая дыскусія мела палемічны характар, напрыклад, была спроба шукаць аналогіі між панявцамі Беларусь, Чорная ці Чырвоная Русь і т.д.

☆

Зусім іншы характар мела спатканне з доктарам Юрыем Туронкам у таварыстве „Памост“ 31 студзеня 1991 г. Агульна кажучы, можна яго ацаніць як чарговы водгук на візіт міністра Кжыштофа Скубішэўскага ў Мінск у кастрычніку 1990 г. Д-р Туронак правёў аналіз суаднасін між палякамі і беларусамі на працягу XX стагоддзя і паказаў на прычыны непадпісання міністрам Краўчанкам дэкларацыі, падрыхтаванай польскім МЗС. Не без прычыны звярнуў увагу на непакой беларусаў у сувязі з пашырэннем паланізацыі, асабліва сярод беларускіх католікаў. Вывады яго сведчылі, безумоўна, аб няўдачы, у гэтым выпадку, польскай дыпламатыі на Беларусі. Ды апошнія падзеі паказваюць, што калі б беларусы Беласточчыны мелі альтэрнатыву выбару між Польшчай і Усходам, выбралі б, праўдападобна, той апошні.

Віцэ-дырэктар Дэпартамента Еўропы МЗС Гжэгаж Костшэва-Зорбас выказаўся, што беларускі бок не ацаніў належна жэст польскай дыпламатыі і гэта падзейнічала адмоўна на апінію аб Беларусі ў свеце. Дадаў аднак, што ў здарэнні гэтым ня-

(Працяг на стар. 2)

## НА мяжы

— 32 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

На працягу дзесяткаў, дзесяткаў пасляваенных гадоў многія людзі прывыклі да таго, што ў краіне дамінуе адна палітычная партыя, якая дазваляе або не дазваляе існаваць некаторым палітычным або грамадскім і культурным арганізацыям. Зразумела, што кіруючая партыя дазваляла існаваць тым арганізацыям, якія праяўлялі лаяльнасць у адносінах да існуючай рэчаіснасці. Зразумела, што да такога становішча не прывыклі ўсе людзі. Многія імкнуліся да свабоды ўзнікання арганізацый і партый і да іх раўнапраўнасці ў адносінах да дзяржавы і канстытуцыі.

Дзейнасць арганізацый ва ўмовах дамінуючай, адной кіруючай дзяржаўнай партыі не была простай. І таму па сутнасці ўсе арганізацыі ўжывалі большую або меншую дозу крывадушлівай лаяльнасці ў адносінах да кіруючай партыі. Па сутнасці ва ўсіх справаздачах або праграмах паасобных арганізацый былі ўступы, у якіх знаходзіліся круглыя фразы аб высакародным характары палітычнай дзяржаўнай сістэмы і аб разумным альтруізме кіруючай дзяржавай партыі. Быў гэта непазбежны рытуал, які здавальняў прысутных на сходах і з'ездах гэтых арганізацый прадстаўнікоў высокіх партыйных або адміністрацыйных устаноў. У далейшых фрагментах справаздач, праграм і справаздач можна было гаварыць аб сапраўдных праблемах і клопатах. Можна было пастулаваць нават тое, што выламвалася з партыйных і адміністрацыйных прынцыпаў і праграм. Думаю, што такія ерасныя пастулаты былі нават на руку партыйным і ўрадавым установам, бо яны станавіліся аб'ектам крытыкі або і вострых атак з боку партыі і ўрадавых органаў. Па сутнасці партыя і прадстаўнікі ўрада былі задаволены, бо яны ж таксама складалі справаздачы, было ім вельмі прыемна, калі маглі ў іх пахваліцца, калі маглі напісаць, што яны змагаліся і пагасілі або разграмілі, або асудзілі, або знішчылі такія ці іншыя праявы няправільных, шкодных ідэй, поглядаў ці імкненняў.

Аднак ужо ў палове васьмідзесятых гадоў стала ясна, што такі шаблон не ўдасца ўтрымаць і што трэба дапусціць да сапраўднага арганізацыйнага плюралізму, у якім паасобныя структуры будуць жыць самастойным жыццём, не будучы партыйнымі ці ўрадавымі органамі. Вось у такой атмасферы ўзнікла недзе ў 1986 або ў 1987 годзе справа стварэння беларускай студэнцкай арганізацыі БАС і камітэта пабудовы Беларускага музея. Міністэрству ўнутраных спраў выразна не падабалася такая ідэя і яно пачало рабіць розныя захады для таго, каб не дапусціць да рэгістрацыі гэтых арганізацый. Міністэрства пачало дзейнічаць досыць хітра. Пастаралася яно ўцягнуць у справу БГКТ. У размове з намі, дзеячамі БГКТ, прадстаўнікі МУС намякалі, што ўзнікненне новых агранізацый пахісне пазіцыю БГКТ. У сувязі з тым, што старшынёй ГП БГКТ быў тады я, то міжволі быў уцягнуты ў гэту ігру. Для мяне, аднак, было ясна, што няма найменшага сэнсу ўтрымліваць існуючае становішча і трэба дазволіць на ўзнікненне новых арганізацый. Тады МУС прымяніла прыём, які меў напалохаць БГКТ, запатрабавала, аднак, пісьмовай рэакцыі ў гэтай справе, намякаючы, што ўся адказнасць спадае на нас, калі акажацца, што новаўзніклыя арганізацыі будуць чыніць не так, як трэба. Намёкаў гэтых мы не прымалі ўсур'ёз. Я напісаў два лісты, у якіх выказаўся за ўзнікненне і камітэта пабудовы Беларускага музея і Беларускага аб'яднання студэнтаў. Не хачу тут пераацэньваць сваю ролю, бо я перакананы, што гэтыя арганізацыі ўзніклі б і тады, калі б я выступіў супраць іх. Аднак, такое выступленне „супраць" вельмі міністэрству прыдалося б, бо тады можна было б раздуваць канфлікт між БГКТ і новымі арганізацыямі. Апошняя брыдкая спроба пашкодзіць камітэту пабудовы Беларускага музея мела месца на з'ездзе БГКТ у 1988 годзе. Прысутны на ім высокі прадстаўнік Міністэрства распусціў чутку, што намеснік старшыні ГП БГКТ і старшыня камітэта пабудовы Беларускага музея Кастусь Майсеня бярэ падвойныя грошы — і з таварыства і з музея. Толькі пазней аказалася, што гэта поўная хлусня.

Аднак, на з'ездзе мана адыграла сваю ролю і адзін з найбольш ахвярных дзеячоў БГКТ ва ўсёй яго гісторыі не быў выбраны ў Галоўнае праўленне БГКТ, у выніку чаго не мог быць намеснікам старшыні. На шчасце, К. Майсеня не абразіўся на таварыства і не кінуў музея. Дзякуючы гэтаму музей усё больш горда глядзіць свету ў твар.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**У рэферэндуме прыняло ўдзел 80 працэнтаў грамадзян Савецкага Саюза.** За захаванне саюзнай дзяржавы выказалася 76 працэнтаў удзельнікаў галасавання.

**Прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай Лех Валэнса знаходзіцца з візітам у Злучаных Штатах Амерыкі.** Прадбачваецца падпісанне „Дэкларацыі аб адносінах паміж РП і ЗША". У прывітальнай прамове прэзідэнт ЗША **Джордж Буш** заявіў, што Злучаныя Штаты вырашылі пагасіць на 70 працэнтаў польскія афіцыйныя даўгі, амаль на палавіну больш, чым прапанова краін-удзельніц Парыжскага клуба (50 прац.).

**— Унушэнні газеты „Советская Россия",** што Польшча хоча выкарыстаць аслабленне СССР для пашырэння сваёй тэрыторыі з'яўляюцца зусім неабгрунтаванымі. Польшча лічыць канчатковай сваю ўсходнюю граніцу і яна не падлягае зменам, — заявіў на прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў Польшчы **Кшыштоф Скубішэўскі.**

**Купіць „Газету Вспулчэсну" стараецца пяць фірмаў.** Управа рэгіёна „Салідарнасць" Беласток прапануе 1 мільярд 530 мільёнаў зл., і Гарадская ўправа ў Беластоку — 1 млд. 500 млн. зл. Журналісцкі кааператыў „Вспулчэсна" супольна з Беластоцкім паліграфічным камбінатам і страхавой фірмай „Вэста" запрапанавалі суму 1 млд. 830 млн. зл. У аўкцыёне прымаюць таксама ўдзел Выдавецкі дом „СОСОМ" з Катавіц (1,7 млд. зл.) і Прыватнае выдавецтва „Глос Выбжэжа" з Гданьска (1,75 млд. зл.). Лёс газеты вырашыць ліквідацыйная камісія да канца гэтага месяца.

**Рэдакцыя „Газеты Вспулчэснай" звярнулася з заклікам** да чытачоў, партый, палітычных і грамадскіх арганізацый падтрымаць заходы журналісцкага кааператыва „Вспулчэсна", паліграфічнага камбіната і „Вэсты" купіць газету. **На заклік станоўча адгукнуліся БГКТ і БДА.**

**Прэзідыум Управы рэгіёна „Салідарнасць" у Беластоку** выступіла з заявай у справе аўкцыёна на „Газету Вспулчэсну". Матывуючы сваё рашэнне купіць газету, Прэзідыум піша: „Наш рэгіён мае акрэсленую нацыянальную і рэлігійную спецыфіку. Будзем імкнуцца да таго, каб пражываючае на Беласточчыне насельніцтва каталіцкага, праваслаўнага і іншых веравызнанняў магло лічыць „Газету Вспулчэсну" сваёй. Мэтай газеты павінна быць ліквідаванне ачагоў канфліктаў, прыбліжэнне і аб'ядноўванне розных грамадскасцей".

**Беластоцкія ўраднікі апасаюцца рабочых-эмігрантаў з-за ўсходняй мяжы.** Зараз штораз больш уласнікаў прыватных прадпрыемстваў звяртаецца ў Ваяводскае бюро працы за дазволам прыняць на работу замежных грамадзян. У мінулым годзе было выдадзена 8 дазволаў (у тым ліку 2 для грамадзян Ізраіля, 1 — Нямеччыны і 5 — СССР), а на працягу трох месяцаў гэтага года — ужо шэсць і ўсё для савецкіх грамадзян.

### ЗАЯВА

**Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне выказвае свой неспакой з прычыны пажараў і абкрадванняў цэркваў. Страчваем мы не толькі помнікі нацыянальнай культуры, але ў першую чаргу свае рэлігійныя каштоўнасці.**

**Удзельнікі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, што сабраліся на сваім гадавым сходзе 10 лютага ў Беластоку, звяртаюцца да ўладаў з патрабаваннем выкрыць падпальшчыкаў ды зладзеяў і аддаць іх пад суд.**

## ПРА БЕЛАРУСЬ У ВАРШАВЕ

**(Працяг са стар. 1)**

ма нічога асаблівага, а тым больш нельга дашукоўвацца сенсацыі, бо польска-беларускія кантакты і далей вывучаюцца экспертамі і супольны пункт гледжання будзе, безумоўна, выпрацаваны.

☆

22 лютага 1991 г. д-р Юры Туронак выступіў у Варшаўскім універсітэце з дакладам на тэму: „Беларускае нацыянальнае адраджэнне і Польшча". Змястоўны даклад выклікаў непасрэднае зацікаўленне слухачоў, якіх сабралася каля 200 асоб. Рэпліка іх на пачутае ці пытанні, стаўленыя дакладчыку, сведчылі аб суб'ектыўных, сціплых ведах польскага грамадства на тэму беларускай гісторыі, адраджэнскага руху і аб саміх беларусах. У суме спатканне мела пазнаўчы характар.

### ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ КЛУБ У ВАРШАВЕ

28 лютага 1991 г., у памяшканні „Вшэхніцы польскай" у Варшаве пры вул. Гурнашлёнскай 20 адбыўся сход заснавальнікаў (каля 20 асоб) польска-беларускага клуба. Праект статута клуба галоўнай мэтай ставіць збліжэнне і ўзаемнае зразуменне польскага і беларускага народаў на шляху абмену поглядамі, зацікаўлення культурамі абодвух народаў, супрацоўніцтва з беларускімі арганізацыямі ў Польшчы і польскімі — на Беларусі.

Цэнтральнай асобай сходу быў сенатар праф. Тадэуш Клапатоўскі, якога сход выбраў старшынёю 5-асабовага камітэта заснавальнікаў клуба.

Незалежна ад аптымістычных наогул выказванняў удзельнікаў сходу на тэму супрацоўніцтва з беларусамі і спрыяння іх нацыянальнаму адраджэнню не адбылося і без крытычных заўваг праф. Клапатоўскага наконт аб'яўлення суверэнітэту Беларусі ды наогул беларускага нацыянальнага адраджэння. Спасылаўся пры гэтым на вядомы яму прыклад, што быццам самі беларусы супраціўляюцца ў касцёле казанням на беларускай мове і жадаюць прапаведзі па-расейску (вывад насоўваецца сам).

У кожным выпадку, маючы на ўвазе прынцып „нічога пра нас без нас" — думаю, што прысутнасць у клубе польскіх беларусаў патрэбная.

**Янка Жамойцін**

# ВЫАРАНЫЯ ВЕРШЫ

„Белавежскі“ паэтычны палетак узбагаціўся новым набыткам: выйшаў другі томік паэзіі **Уладзіміра Гайдука** *„Блакітны вырай“*.

Чароўны гэта набытак — пахнучы свежай раллёю і спелым збожжам, бо да вершаў у ім, як кажа сам паэт, *„Я ішоў гадамі/ Прыставаў, затаміўшыся ў скібах, / Выціраў горкі пот рукавамі, / Каштаваў яго смак журавінны. / Быў шчаслівы і сэрца дрыжэла, / Як схапіў яго, нібы соннага зайца...“ („Маладосць маю бестурботную...“)*. І такім настроем арганічнай еднасці працы і паэзіі прасякнуты ўвесь зборнічак. Зрэшты, інакш і быць не можа. Валодзік — селянін, які хлеб штодзённы здабывае на сваёй гаспадарцы так, як здабывалі яго бацькі і прадзеды ўсё на тым жа хутары Полымя каля вёскі Тарнаполь, што непадалёк сённяшняга Семяноўскага мора. Таму, калі ў іншых аўтараў усялякія спасылкі на сейбіта, аратага ці касца, або на белую чаромху, салаўіны шчэбет ці бусліныя паляванні на жаб могуць быць усяго толькі хітрамудрай метафарай ці стылізацыяй, то ў нашага паэта з Полымя яны — натуральнае яго акружэнне, у якім нараджаюцца і растуць вершы, быццам калівы збожжа з кінутых ім у пухкую зямлю зярнятаў. Асабліва паказальны ў гэтых адносінах ягоны верш *„Селянін-мастак“*, у якім аўтар гаворыць аб жыватворчай ролі селяніна ў жыцці прыроды, бо *„Прасіліся зярняты / Сваёй дарогі, / Ім снілася / Песня калосся“* і ён, сейбіт, стварае ім такую нагоду ды *„Пальцамі меры / Жменю жыцця / З непакоем / І радасцю ў сэрцы...“*, а *„Сваё тварэнне / Апраўдаў надзеяй“*.

Але памыляўся б той, хто палічыў бы, што У. Гайдук паэтызуе, прыхарошвае жыццё і працу селяніна. У вершах *„Вясна“* і *„Сялянская вясна“* ён якраз супрацьпастаўляе прыгажосць прыроды, прачуленыя пачуцці селяніна, запалоненага яе чарамі, тым высілкам, якіх патрабуе ад яго нават найпрыгажэйшая пара года, бо і тады *„Вілы рытмічна / Лічаць мінуты / Гноегадзіны“*, ад гэтага зараз жа *„Усе паэтычныя настроі / Быццам рукою адняло...“* і як жа ж праўдзіва сцвярджае паэт: *„Сяляне дабываюць хлеб / Стомай, і потам, і душою“*. Аднак наш аўтар не паддаўся гэтым цяжкасцям сялянскага побыту, яны не засланілі яму красы жыцця. Большасць вершаў у *„Блакітным выраі“* гэта творы аб прыгажосці існавання наперакор перашкодам і складанасцям. Можна толькі пазайздросціць У. Гайдуку, чалавеку ўжо ў спелым узросце, тае юнацкай палкасці пачуццяў, свежасці ў выказванні самых прачуленых, самых шляхетных адчуванняў, якія пераважаюць у зборніку (*„Танга“*, *„Я не вінаваты“*, *„Чаромха“*, *„Сенакос“*, *„Восень была...“* і іншыя). Гэта не значыць, што няма тут паглыбленых разважанняў над трагічным у канчатковым выніку лёсам кожнага чалавека: *„Усяму... Ёсць свой пачатак і канец“ („Прага“)* і, як быццам далёкае водгулле сентэнцыі М. Рамарка *(„Час жыць і час паміраць“)*, прамаўляюць словы: *„На ўсё свой час — сезоны праміная / Ідуць парадкам, быццам дзень па ночы“ („У полі плача вецер-валачобнік...“)*. І нараз, здаецца, гэтая праўда мяжуе з адчаем над адышоўшымі ў нябыт гадамі і няздзейсненымі марамі *(„Слова сказаць“)*, над тым, што *„...Ты выпіў няўдачы след“ („Апошняе неба“)*, ці што ўсё вартае ўвагі, ужо за табой, чалавеча. І ўсё ж у паэта перамагае здаровы аптымізм: *„Прага да жыцця мацней законаў. / А жыццё каротка, як песня. / А жыццё аднолькава заве нас / У вырай лётаць, пакуль б’ецца сэрца“ („Вырай“)*. Гэтая аб’ектыўная праўда зусім не пярэчыць закону праміная — трэба зміryцца з лёсам і пражыць адведзены нам час без бунту, у спакойнай разважлівасці і згодзе з прыродай, бо *„Лепей да зямлі прыхіліцца, / Яна — маці, яна — святая / І яна ніколі не скрыўдзіць, / У сабе яна шчасце трымае“ / „Маладосць маю бестурботную...“/*.



Уладзімір Гайдук

БЛАКІТНЫ ВЫРАЙ

*„Блакітны вырай“* У. Гайдука — зборнічак невялікі памерамі, усяго крыху болей за два дзесяткі твораў. Але ж не ў колькасці тут справа. Вершы, змешчаныя ў ім, выдатна розняцца ад выдадзеных у папярэднім зборніку паэта (*„Ракіта“*, 1972 г.). Гэта ўжо іншы голас — узважаны і патрабавальны да сябе — са сфармаваным поглядам на свет і жыццё і са сваім уласным каларытам. Уражвае ў ім не толькі глыбіня думак, але і арыгінальнасць вобразаў і метафар, якімі яны выказаны. Возьмем, для прыкладу, хаця б такія: *„У кустах лазовых пазалочаны месяц“* ці *„На зялёных лахінах кроплі роснае ртуці“ („Салавей да світання...“)*, або *„Апошні крык / Схаваўся ў цемры іржавую фінкай“ („Апошняе неба“)* і іншыя, якімі аж ірдзяцца вершы.

Хочацца зычыць аўтару новых творчых здзяйсненняў, а нам, чытачам, як мага хутчэйшага знаёмства з наступным зборнікам яго вершаў.

Думаецца, што разам з тым, як Ян Чыквін заняўся стварэннем *„Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа“* і стаў яе рэдактарам, цяжкасцяў з выдаваннем твораў „белавежцаў“ не будзе. Ведаючы прафесіяналізм, саліднасць і настойлівасць рэдактара, можам быць упэўненымі, што ўсё вартаснае з нашага „белавежскага“ пісьменства не апынецца па-за яго пільнай увагай. Пацвярджэнне таму тыя некалькі апошніх месяцаў 1990 года, за якія Я. Чыквін паспеў выдаць дзве кніжкі нашых аўтараў, у тым ліку як другую — *„Блакітны вырай“* Уладзіміра Гайдука. Аператыўнасць дастойная віншавання!

**Ігнат Снарскі**



## ГРУШАВЫ НЕ ВАРТЫ ПАХВАЛЫ

З публікацыі Аляксандра Максімюка, змешчанай у нумары „Нівы“ ад 10 сакавіка, можна зразумець, што наша акцыя „Дзеці Чарнобыля“ пачалася ад тэлефоннага званка да мяне Генадзя Грушавога, старшыні Камітэта „Дзеці Чарнобыля“ ў Мінску. Праўда ёсць іншая, і мала хвалебная Грушаваму.

Не мела б месца нават дзесятая частка таго балагану ды паўпартызанскага безгалоўя, што так дакументавана паказаў Максімюк, калі б той жа Грушавы не аказаўся чалавекам маласур’ёзным. Кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб’яднання, усведамляючы сабе веліч працы і выдаткаў дзеля акуратнага наладжання помачы няшчасным дзеткам з Беларускай Рэспублікі, ужо ў майскі пачатак вясны дзевяностага года падрыхтавала ўтварэнне Усяпольскага камітэта „Дзеці Чарнобыля“. Нашы польскія партнёры выказалі толькі адну просьбу — каб прычыніліся мы да прыезду ў Беласток, хаця б на некалькі гадзінаў, Генадзя Грушавога або ўпаўнаважанай ім асобы, якая вычарпальна перадала б кампетэнтную медыцынскую і арганізацыйную інфармацыю наконт памераў і спосабаў планаванай дапамогі. Ні мы, ні тым болей палякі аніяк не здолелі ўцяміць, чаму гэта „адраджэнскі“ Мінск не рэагуе на тэлефоны і пісьмы ад нас у гэтай справе. Выехаў туды, урэшце, Віктар Стахвюк, а неўзабаве і я, учыніўшы там Грушавому авантуру і выбіўшы ад яго афіцэрскае слова гонару, што, аднак, з’явіцца ён на ўстаноўчы сход Усяпольскага камітэта „Дзеці Чарнобыля“ ў Беластоку. Не з’явіўся, яшчэ і пазваніўшы потым, што ў яго на галаве важнейшыя заданні... Наеўшыся сораму перад паважнымі палякамі, мы растлумачылі самі сабе, што, відаць, няма з кім у Мінску гаварыць, і махнулі на ўсё рукою. Ажно ў пачатку лета, ні ў пяць ні ў дзесяць, пасыпаліся да нас групы дзяцей з-пад Чарнобыля, і завіравала ўсенька прыблізна гэтак, як даследаваў тое Максімюк (акрамя па-партызанску рухавага Галькевіча была і „партызанка“ Саўрасава, і нейкія зусім дзіўныя арганізатары адтуль, а кожны з іх, як гаворыцца, свой хлеб пёк). Дружалюбныя да нас палякі (тыя самыя), пабачыўшы, з якога хаосу мы выкручваемся, аднавілі ідэю арганізавання Усяпольскага камітэта „Дзеці Чарнобыля“ і акцыя набыла больш-менш цывілізаваны характар. Тады і падаў свой — ужо няпрошаны намі — голас Генадзь Грушавы, пакарыстаўшыся пасрэдніцтвам вядомага барда Сокалава-Воюша, якраз наведаўшага мяне. Адумаўся прасіць прабачэння. На шчасце, дабрачынная акцыя „Дзеці Чарнобыля“ ў нашай краіне рушылася і без яго ласкі.

**Сакрат Яновіч**




## ПРАВА СЛАВІЦЬ

**Размова з ЯЎГЕНАМ ЧЫКВІНЫМ, праваслаўным паслом.**

*— Як беларус і праваслаўны Вы пілатуеце ў Сейме праект закона аб адносінах дзяржавы да Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Сярод палякаў існуе перакананне, што праваслаўе чужое польскай традыцыі таму, што было звязана з царскай Расіяй.*

— Праваслаўе ў межах польскай дзяржавы апынулася ў XIV ст., калі Казімеж Вялікі далучыў да Польшчы рускія землі. Даўнія русіны, а сённяшнія беларусы і ўкраінцы, ад шасці стагоддзяў з’яўляюцца жыхарамі нашай краіны. Праваслаўнаму веравызнанню ўжо звыш тысячы год. Погляд, што праваслаўе гэта чужы элемент і трэба яго латынізаваць, а вернікаў апалячваць, у гісторыі нашай дзяржавы паяўляўся часцей, чым погляд, што праваслаўе гэта інтэгральны элемент польскай культуры.

Пара ўжо, каб гэты другі погляд закараніўся ў свядомасці палякаў. Трэба памятаць, што Польшча стагоддзямі, а нават і сёння, хаця ў меншай ступені, была шматнацыянальнай і шматрэлігійнай дзяржавай. Другі погляд пераважаў у канцы XVIII ст., у перыяд Чатырохгадовага сейма. Думаю, што сённяшні Сейм склоніцца да гэтых добрых традыцый і ўстановіць для Праваслаўнай царквы тыя ж самыя правы, што і для Каталіцкага касцёла.

*— А такіх правоў Царква не мае?*

— На жаль, не. У II Рэчыпаспалітай праваслаўе трактавалася ўладамі і грамадствам як апора царызму, а потым бальшавізму. Такі падыход спрычыніўся да варварскай акцыі паліць цэрквы на Падляшшы і Холмшчыне ў 1938 г. Спрыяльным было і тое, што ў міжваенным дваццацігоддзі Царква не мела ўрэгуляванага статуту. Ажно ў канцы гэтага трагічнага для нас 1938 г. прэзідэнт выдаў дэкрэт, які фармальна абавяз-

(Працяг на стар. 4)



## Свойскія малюнкі

*Беласток. Вул. Млыновая. Малюнак У. Петрука.*

тут цеснавата. Савецкі Саюз — дасканалы рынак для экспарту, бо там практычна нічога няма. Бяда толькі ў тым, што не вельмі, каб мелі чым заплаціць. Трэба крышачку задумацца.

Якая была дарога Галіны Анафрыюк да гандлю? Нарадзілася яна ў Нараўцы. Пра год нараджэння, як і выпадала б, я не дапытваўся. З Нараўкі пераехала з сям'ёю ў Кляосін. Закончыла будаўнічы тэхнікум у Саколцы. Працягваць адукацыю ў вышэйшай навучальнай установе не дазволілі сямейныя варункі. Распачала працу на шклозаводзе. Увесь гэты час цягнула яе да гандлю, бо і ў сям'і, як мне сказала, і ў наваколлі заўсёды знаходзіліся людзі, якія гэтым займаліся. У 1982 годзе паспрабавала атрымаць дазвол на гандлёвую дзейнасць. Запальвалася тады „зялёнае" святло для прыватнай ініцыятывы, гэта значыць, дзяржава павысіла падаткі. Пасля змагання з усялякімі ўправамі ўдалося ёй аформіць гэты дазвол, і яна распачала гандаль агароднінай і садавінай. Чарговымі прыступкамі да кар'еры былі: рынак па вуліцы Бэма, латок на вуліцы Ліповай і латок на вуліцы Міцкевіча.

Калі я гутарыў са спадарыняй Анафрыюк, у фірму зайшлі двое мужчын, прапануючы свой тавар. Спадарыня Анафрыюк толькі раз глянула на вопратку, якую тыя хацелі ёй прадаць, ды бесцырымонна іх адправіла. Гэткага тавару нідзе не прадасі, тлумачыла мне. Яны працуюць яшчэ паводле старой сістэмы. Каб паставіць гаспадарку з галавы на ногі, яны ды ім падобныя мусяць абанкроціцца. Іншага шляху няма. Працаваць трэба добра.

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтара

# НАШЫ КАРАНІ

### V. ЗАРАНКА

Папярэдне мы прыпаміналі, што місіянерская дзейнасць вучняў і паслядоўнікаў „першанастаўнікаў славенскіх", святых Кірылы і Мяфодзія пашыралася пераважна ва ўсходняй частцы Вялікамараўскай дзяржавы і па-за яе ўсходнімі межамі, у тым ліку, магчыма, пранікала на землі сённяшніх Паўднёвага Падляшша, Заходняга Палесся, Валыні. Пасля смерці ў 885 г. святога Мяфодзія (святы Кірыла памёр у 869 г.) пад націскам нямецкага лацінскага духавенства вучні „першанастаўнікаў славенскіх" мусілі ўрэшце пакінуць Маравію і падацца ў суседнія балканскія і іншыя краіны.

Асабліва ўдзячнае поле для хрысціянізацыйнай дзейнасці яны знайшлі ў Балгарыі. Пры падтрымцы князя Барыса і яго наследнікаў яны хрысціянізавалі Балгарыю, усебакова развівалі рэлігійнае і свецкае пісьменства на славянскай мове, засноўвалі школы, стваралі бібліятэкі, адукавалі многія сотні грунтоўна падрыхтаваных да душпастырскай і асветнай дзейнасці духоўных. Гэты буйны росквіт славянскага хрысціянскага абраду і яго культуры ў Балгарыі шчодра праменіў на суседнія і болей адлеглыя ад яе краіны.

Ужо пры панаванні ў Кіеве князя Ігара хоць і патаемна, аднак усё мацнейшым струменем ва ўсходнеславянскія землі прасочваецца духавенства не толькі з Маравіі, але і з Балгарыі. Усё ж праўдзівае адкрыццё Усходняе Славяншчыны для місійнай, хрысціянізацыйнай дзейнасці настае пры княгіні Вользе (панавала ў Кіеве ў 945-964 гадах, памерла ў 969 годзе). Летапісцы называюць яе *„заранкай перад сонцам і зарою перад світаннем"*, таму што пры ёй хрысціянства канчаткова і беспаваротна ўмацавалася на ўсходнеславянскіх землях. Яна сама прыняла святое хрышчэнне, стала дбайнай апякункай хрысціянаў, усяляк клапацілася пра пашырэнне хрысціянства сярод князёў і іх прыбліжаных, а таксама сярод простых людзей. Пад яе апекай прапаведвае Хрыстовую навуку перш за ўсё прыбываючае ў значнай колькасці духавенства з Балгарыі, якою аваладаў Вользін сын, князь кіеўскі Святаслаў. Разам з балгарскімі місіянерамі прыходзяць на Усходнюю Славяншчыну шматлікія пераклады Свяшчэннага Пісання на блізкую сэрцу і зразумелую, асабліва дрыгавічам, якія жылі, як мы ўжо згадвалі, таксама на тэрыторыі сённяшняга Падляшша, славянскую мову. Такім чынам ранейшая хрысціянізацыйная дзейнасць місій з Вялікай Маравіі ў пэўнай меры атрымала працяг і дзейснае падмацаванне з Балгарыі. Паступова па ўсёй Усходняй Славяншчыне прыбывае хрысціянскіх абшчынаў, і гэта патрабуе самастойнай епархіі на чале з архіерэем.

Якраз пастаўленне канстанцінопальскім патрыярхам архіпастыра ўсходнім славянам і было адной з найважнейшых справаў, дзеля якіх княгіня Вольга ў 957 годзе накіравалася ў суправаджэнні свайго духоўніка і шматлікай світы ў далёкі Канстанцінопаль. На жаль, кіеўская місіянерка-княгіня з „ганарыстай Візантыі", як заўважае адзін з летапісцаў, вярнулася ні з чым, бо тадышнія візантыйскія пануючыя і іерархі не патрапілі належным чынам ацаніць эпахіяльнае, велічнае значэнне хрысціянізацыі ўсходніх славян і падзвіжніцкую ролю ў гэтай справе княгіні Вольгі. Насупраць усім перашкодам, асабліва з боку языччаскага акружэння яе сына, вялікага князя Святаслава, яна не апусціла рук, не знеахвоцілася, не зраклася свае місіі і працягвала пашыраць хрысціянства, успамагаць пабудову храмаў, апекавацца духавенствам і простымі веруючымі. Сваіх унукаў — сыноў князя Святаслава — княгіня Вольга выхавала ў пашане да веры хрысціянскай.

**Мікола Гайдук**

кон, які рэгуляваў прававы стан Царквы, але вайна перашкодзіла яго ажыццяўленню.

— *Як дайшло да заканадаўчай ініцыятывы?*

— Ініцыятыва была магчымая пасля рэгуляцыі, два гады таму назад, адносін дзяржавы да Каталіцкага касцёла. Гэта дало магчымасць прававых рэгуляцый іншым касцёлам, а таксама і Праваслаўнай царкве. Праект закона падрыхтаваў урадава-царкоўны калектыў, а перададзены быў як пасольскі.

— *Чаму па сёння закон не прыняты?*

— Некаторыя паслы адмоўна ставяцца да такога закону. Напрыклад, Яраслаў Капса з Чанстаховы даў прапанову адкінуць праект, не перадаючы яго нават у камісію. На яго думку, закон нязгодны з Канстытуцыяй. Капса і іншыя паслы сцвярджаюць, што права на назву *касцёл* мае толькі Каталіцкі касцёл і толькі ён мае права на асобны закон. Іншыя касцёлы гэта толькі „рэлігійныя арганізацыі", якія падлягаюць закону аб свабодзе сумлення і веравызнання.

У такім падыходзе відаць спроба дзяліць грамадзян на *лепшых* — католікаў і *горшых* — вызнаўцаў іншых рэлігій. У сувязі з тым, што гэта першая спроба рэгуляцыі праблемаў меншасці (у гэтым выпадку рэлігійнай), думаю, што лёс гэтага закону будзе паказчыкам сапраўдных адносін палітычных сілаў у парламенце да не-палякаў і не-католікаў, пражываючых у Польшчы.

Выказванні, што праект закону нязгодны з Канстытуцыяй, смешныя і несур'ёзныя. Савіцкая і Красавіцкая міжваенныя канстытуцыі прадбачвалі асобныя законы для ўсіх веравызнанняў у Польшчы. У праекце Канстытуцыі ПНР прапанавалася ўнармаваць сітуацыю ўсіх касцёлаў адным законам. І менавіта тады каталіцкія паслы запрапанавалі фармулёўку, якая сёння з'яўляецца фрагментам 82 артыкула Канстытуцыі РП: *Прынцыпы адносін дзяржавы да Касцёла, а таксама юрыдычная і маёмасная сітуацыя рэлігійных арганізацый вызначаюць законы.*

— *Ці ў час экуменізму сапраўды ставіцца пад сумненне, ці Праваслаўная царква гэта паўнапраўны касцёл?*

— На жаль, фармулююцца такія выказванні, ды не толькі некаторымі пасламі, але і іерархамі Каталіцкага касцёла. Пярэмыскі біскуп Грэка-каталіцкага касцёла (візантыйска-ўкраінскага) у лісце, накіраваным у сеймавую Камісію нацыянальных і этнічных меншасцяў 25 студзеня 1991 г. пісаў, што *Праваслаўная царква як іншая „рэлігійная арганізацыя" ў разуменні Канстытуцыі і вышэй пералічаных законаў атрымала ўжо прававую рэгуляцыю ў законе ад 17 мая 1989 г. аб гарантыях свабоды сумлення і веравызнання, так як іншыя звыш 48 рэлігійных арганізацый.*

— *Вяртаецца аднак праваслаўна-уніяцкі канфлікт. Якія сёння адносіны праваслаўных да уніятаў?*

— Уніяты — гэта нашыя браты. Былі з намі ў адной царкве каля шасці стагоддзяў. Адыйшлі ў Каталіцкі касцёл у выніку Брэсцкай уніі ў 1596 г. Мела яна аб'яднаць усходні і заходні касцёлы, але давяла да ўзнікнення трох касцёлаў. Адносіны між праваслаўнымі і уніятамі былі потым кепскія.

*Фрагмент інтэрв'ю Ежы Роха, змешчаны ў 11 нумары тыднёвіка „Po prostu"*

# Іх папараць-кветка або у амерыканскіх беларусаў



Ніягара-сіты.

## 10. АБРАЗКІ З НІЯГАРЫ

Ніягарскі вадаспад — чацверты ў свеце па сваёй вышыні. Дасягае ён 51 метра. Каму ж не карціць убачыць яго, калі ўжо хто апынуўся ў Злучаных Штатах Амерыкі ці Канадзе!

Гасцінныя „палачане“ Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч і Янка Ханенка арганізавалі нам, удзельнікам 19-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, такую экскурсію 5 верасня 1990 г. Паехаў з намі ў якасці праваднiка Янка Ханенка, старшыня Клійлендскага аддзела БАЗА (Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Амерыцы). Кастусь Калоша прапаваў, а Сяргей Карніловіч паехаў у Пітсбург з Генадзем Грушавым, кіраўніком камітэта „Дзеці Чарнобыля“ пры БНФ, каб там у адной бальніцы дагаварыцца наконт нейкіх лекаў для чарнобыльскіх дзетак — ахвяр трагедыі.

Нанялі элегантны аўтобус. Прыстойны негр, „мурын“, як кажуць тутэйшыя беларусы, шырокай усмешкай вітаў кожнага ўваходзячага ў аўтобус. А ехаў калектыў „Жывіца“ з Мінска ды яшчэ пару гасцей з Беларусі, некалькі беластаччан ды беларусаў, прабываючых часова ці пастаянна ў Злучаных Штатах ці ў Канадзе. Перад намі каля 500 кіламетраў дарогі.

Па меры таго, як мы, едучы на поўнач, набліжаліся да Ніягарскага вадаспаду, домікі, якія мы міналі, станавіліся ўсё больш прыгожыя і заможныя з выгляду. Відаць, зямля тут добрая, падумалася мне. Былі нават цэлыя новыя вёскі, пабудаваныя, здавалася, вось-вось. Амаль усе домікі былі драўляныя, але не такія, як ставяць у нас, а такія, больш-менш як прапануе нам сёння „Дрэўбуд“ і якія мы наогул аглядаем толькі ў тэлевізары.

Навокал буяла свежая зелень. Усё расло як бы на нашых вачах, удыхаючы ў сябе вільгаць. Першы раз за мой побыт тут пайшоў дождж, праз момант ператвараючыся ў лівень.

Праехалі горад Бафала. Каля самага Ніягара-сіты дождж скончыўся. Перад намі паўстаў невялікі, але прыгожы горад з надта сучаснымі будынкамі, ад якіх проста не хацелася адрываць вачэй. У паветры было вельмі вільготна, хаця па дажджы не засталося ўжо і следу. Мы выйшлі з аўтобуса і пайшлі ў бок вадаспаду.



Ніягарскі вадаспад.

Наверсе рака плыла даволі спакойна, але калі яна даходзіла да скалістай грані, вялізная маса вады са страшэнным гукам ападала ўніз са скал, распырсквалася па наваколлі — пароўну на амерыканскі і канадскі бакі, бо з другога боку была ўжо Канада.

Хто меў фотаапарат, пачаў рабіць здымкі. Стоячы зверху на ўзроўні ракі, я абфатаграфавала вадаспад з усіх бакоў, але ўсё пакрывала як бы імгла — столькі было вады ў паветры, і здымкі выйшлі не надта добрыя.

Мы прахаджваліся, глядзелі ўніз, дзе бушавалі, клубіліся, пеніліся патокі вадзяной лавы. Наверсе быў дзіўны спакой, які кантраставаў з вадаспадам. І раптам мы ўбачылі ўнізе лодку, поўную людзей. Яе матала ва ўсе бакі, яна падскаквала і кiвалася. Па целе пайшлі дрыжыкі.

# ПА ТОЙ БОК „КРЭСАЎ“

(Пачатак у папярэднім нумары)

## СЛУХАЧЫ

Кантынгент слухачоў вельмі разнастайны. Век — ад 18 прыкладна да 50 гадоў. Розныя прафесіі. Адукацыя — мала з вышэйшай. Прадстаўніцтва — ад каталіцкіх парафіяў ды таварыстваў „Палонія“ з Літвы, Украіны, Беларусі і латвійскай Латгаліі.

Сярод слухачоў з Беларусі былі прадстаўнікі ад Брэста, Гародні, Слоніма, Мінска. Дарэчы пасланцы з Беларусі ва ўсіх групах складаюць значную ў параўнанні з іншымі частку — ад трэці да палавіны. Гэта людзі пераважна сярэдняга веку з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй і нізкім культурным узроўнем. Па нацыянальнасці — найбольш беларусы, аб чым гавораць чыста беларускія прозвішчы. Як правіла, маюць нейкую польскую нацыянальную свядомасць, але вельмі невыразную, нейкую мяшанку, альбо, як кажуць, — польскай веры. Католікі з Мінска — у большасці нацыянальна індыферэнтныя. Католікі з Гародні (былі дзве кабеты з гродзенскага каталіцкага клуба) вельмі варожа і злосна рэагуюць на праявы чагосьці беларускага — мовы, іншых прыкмет свядомасці. Польскую мову як след не ведаюць, размаўляюць па-расейску „з прыпшэкваннем“.

Ёсць беларусы і праваслаўнай традыцыі, але ўсе яны атэісты і абсалютна індыферэнтныя нацыянальна (нават не разумеюць часта, аб чым ідзе гаворка і што такое нацыянальная свядомасць). Гэтыя часта нават не кемяць ані слова па-польску і толькі робяць выгляд, што разумеюць палякаў. Адна кабета з Мінска пры сварцы так растлумачыла прычыну ненаведвання лекцыяў: „Я не Зоя Космодемьянская терпеть такие муки! Я там ничего не понимаю. Ксёндз смотрит, я уже где улыбнусь, где что, но лучше все же сделать очередь и ходить по очереди...“ Людзі гэткага кшталту звычайна маюць адзіны інтарэс у польскіх таварыствах — паехаць у Польшчу і дні праводзіць на рынку. Але перад палякамі яны выдаюць сябе за ахвяр савецкай палітыкі „дэнацыяналізацыі палякаў“. Яны, дарэчы, у размовах з сапраўднымі палякамі, ці то не разумеюць гэтага альбо знарок, таксама могуць падтрымаць іх, што няма польскіх школ і гэтак далей. Так, адна кабета ў адказ былому акоўцу-асадніку на яго словы аб неабходнасці барацьбы з камуністамі і ўстанаўленні польскай улады на Беларусі адказала: „Действительно, Горбачев дал нам сейчас слишком много свободы, очень много, и мы не знаем, как сейчас жить, поэтому у нас и стало плохо. Раньше лучше было“. Чым абсалютна збянтэжыла паляка.

Варта сказаць, што летась была першая спроба наладзіць падобныя курсы, і таму слухачы падбіраліся польскімі дзеячамі на Беларусі паспешліва. У Польшчы былі вельмі незадаволены набранымі людзьмі, бо лекцыі для іх былі „павіннасцю“, і на занятці ў лепшым разе збіралася каля 40 працэнтаў слухачоў. Магчыма, наступны раз падбор будзе пільнейшы.

Дарэчы, большасць беларускіх „палякаў“ абсалютна не ведае ані беларускай гісторыі і культуры, ані польскай. З польскай мовай сітуацыя асабліва цяжкая. Яе практычна не ведае ніхто, і нават на курсах ніхто сур'ёзна ёю не займаўся.

Іншая справа — дзеячы накшталт пана Дабрыніна. Гэта разумныя, дасведчаныя людзі. Яны добра ведаюць сваю „паству“ і мэтанакіравана яе апрацоўваюць. Маюць багата знаёмых у Польшчы сярод ксяндзоў ды іншых, занятых „праблематыкай крэсовай“. Лідэры беларускіх палякаў вельмі часта бываюць у Польшчы. Сярод іх ёсць вельмі папулярныя, вядомыя сваёй патрыятычнай працай на „крэсах“, як напрыклад, ксёндз Казімір Свёнтак з Пінска. Такіх дзеячаў можна ўбачыць на польскім тэлебачанні, прачытаць аб іх дзейнасці ў польскіх газетах. Гэтыя дзеячы звычайна настроены вельмі варожа ў адносінах да ўсяго беларускага.

## КАНЦЭПЦЫІ

Беларусь у шматлікіх польскіх публікацыях аб „крэсах“ займае асобае месца. Гэта тлумачыцца тым, што яна з'яўляецца „слабым звяном“ на „крэсах“ у параўнанні з Украінай і Літвой, а таму і займае асобае месца ў стратэгічных планах палякаў.

На іх думку, пры распадзе Савецкага Саюза Украіна безумоўна стане незалежнай дзяржавай. Яе моцны эканамічны патэнцыял, 50-мільённы народ і традыцыйная варожасць да палякаў будуць сур'ёзнай пагрозай для Польшчы, а таму на вяртанне Львова, як бы таго ні хацелася, нават і разлічваць дарэмна.

Што тычыцца Літвы, дык польскія дзеячы таксама ведаюць аб высокай нацыянальнай свядомасці літоўцаў ды безумоўнай гатоўнасці іх любымі



*Дырэктар Гайнаўскага ліцэя Аляксандр Іванюк, жыхар Канады Алесь Палескі, былая спявачка калектыву „Лявоніха“ Люба Блізнюк і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко.*

Лодка цвёрда кіравалася аж пад вадаспад. Якія героі гэтыя людзі!

І раптам нехта кінуў кліч: „А мы? Ці паедзем на лодцы да вадаспаду?“. І тут Янка Ханенка паставіў пытанне рабром: „Рашайце, альбо абед — альбо лодка!“. Білет на лодку каштаваў 6 долараў ад асобы, а Янка Ханенка меў на нас грошай якраз столькі, каб залічыць адно з гэтых мерапрыемстваў. Вядома, большасць была за лодку.

Мы з'ехалі ліфтам уніз. На прыстані далі нам тоўстыя сінія плашчы з каптурамі, якія ўсе надзелі на сябе.

Увайшлі на лодку. Зблізку яна ўжо не здавалася нам такой маленькай, проста цацкай, як здалёк. Гэта быў малы караблік, дзе можна было схавацца ў сярэдзіну, але можна было і стаяць на палубе. Усе нашыя павылазілі наверх. Ехаць і не аглядаць?!

Набліжаліся да вадаспаду. Усё гучэла навокал. Пацямнела. Наша лодка, быццам маленькая трэсачка, змагалася з чорнай масай вады. Ужо, здавалася, вось-вось яна ўедзе ў вадаспад і тоны вады зваляцца на бездапаможную пасудзіну, але раптам яна крута павярнула налева і памалу пачала аддаляцца ад вадавароту.

Нам адлягло. І падумаць толькі, што мне Ніягарскі вадаспад уяўляўся раней, як звычайны вадаспадзік на карцінцы, дзе вада спакойна сцякае зверху, абмываючы лагодна скалы...

Здаўшы плашчы, мы ліфтам уехалі наверх. У бары я паспела яшчэ выпіць за адзін долар (99 цэнтаў, вядома) шклянку газіроўкі, а пасля на лоне натуры мы з'елі гамбургеры на падвячорак, якія нам далі з сабою. Па-сапраўднаму накінуліся на яду ў Беларускім цэнтры, калі познім вечарам вярнуліся ў „Полацак“.

*(Працяг будзе)*

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Справа: Валянціна Пархоменка і яе дачушка Оля Казак з мінскага калектыву „Жывіца“ на лодцы.*

сродкамі абараніць Вільню. Таму ў Вільні адзінае, на што можна спадзявацца, — гэта падтрымліваць там польскі „агеньчык“, не выстаўляючы асаблівых прэтэнзій.

Іншая справа — Беларусь. На думку адных, на Беларусі няма сіл, якія былі б здольныя пабудаваць самастойную дзяржаву. Беларусы як нацыя — утварэнне вельмі штучнае і слабое. Яны заўжды падпарадкоўваліся мацнейшым — расейскім камуністам або нямецкім фашыстам — і, будучы заўжды ворагамі палякаў, з дапамогай першых і другіх вынішчалі палякаў. Але гэта маленькая купка людзей, якія не маюць падтрымкі ў цалкам аморфнай і некультурнай масе. Да таго ж, на думку польскіх даследчыкаў, на Беларусі жыве як мінімум 2,5 мільёна палякаў. Праўда, з трохі замутнёнай нацыянальнай свядомасцю, бо доўгія гады на Беларусі зусім не было польскай інтэлігенцыі, якую вымардавалі рознага кшталту ворагі. Вялікая місія Польшчы зараз — гэта дапамагчы сваім братам за ўсходняй мяжой стаць нарэшце палякамі, а з часам (ёсць надзея, што Савецкі Саюз развалiцца) і ўз'яднацца з маці-Польшчаю. Польскія палітыкі разлічваюць, што гэта будзе зроблена без асаблівых турбот, бо супрацьстаяць гэтаму на Беларусі няма каму. Па-рознаму вызначаюцца будучыя межы, некаторымі — да Смаленска.

Існуе і другая канцэпцыя, паводле якой ніякіх беларусаў няма ўвогуле, і Беларусь можна разглядаць як толькі паняцце геаграфічнае, а беларусаў — як этнаграфічны матэрыял, які ніяк не можа дэфармавацца і стацца палякамі або расейцамі. Тут, як палякі кажуць, двум вялікім народам — польскаму і расейскаму — трэба проста падзяліць гэтыя землі ды тым самым аднавіць на гэтых землях натуральны ход гісторыі і нармальныя суседскія ўзаемадачыненні. Гэты план вельмі нагадвае варыянт Рыжскай мірнай умовы 1921 года. З такім планам, дарэчы, некаторыя слухачы курсаў былі азнаёмлены пад час ужо згаданай сустрэчы ў ратушы Беластока.

На заканчэнне можна сказаць, што ў Польшчы зараз выходзіць вялікая колькасць кніжак, часопісаў, іншай літаратуры, прысвечанай Беларусі. Уважліва вывучаюцца розныя бакі яе жыцця.

### ДЗЕЙНАСЦЬ

Дзяржавай у дзяржаве называюць у Польшчы каталіцкі касцёл. На сённяшні дзень ён сутыкнуўся з праблемай, калі парафіі стаяць адна ад другой настолькі шчыльна, што паміж імі пачынаецца канкурэнцыя за вернікаў, а ксяндзоў такая вялікая колькасць, што многія застаюцца без працы. Выйсце польскі клер бачыць адно — пашырацца за межы Польшчы, развіваць місіянерскую працу. Да таго ж, польскі касцёл моцна палітызаваны. Доўгі час яго ворагам былі камуністы. Цяпер іх няма, але застаецца баявы дух касцёла і вобраз ворага: без барацьбы з кімсьці польскі касцёл не можа існаваць. Што датычыць праблемы „ўсходніх крэсаў“, то тут унутраная стратэгія касцёла, традыцыйна вельмі нацыяналістычная, змыкаецца з нацыяналістычнымі настроямі польскага грамадства. Ксяндзы едуць на Беларусь не так з місіяй веры, як амбасадоры польскасці, як памагатыя ў ажыццяўленні амбіцый мясцовых дзеячоў кшталту Дабрыніна.

Ёсць пэўныя эканамічныя прычыны польскай культурнай экспансіі на Беларусь. Пагроза беспрацоўя таксама можа падштурхнуць настаўнікаў польскай мовы, работнікаў культуры шукаць сабе працу на „крэсах“.

Вялікая колькасць публіцыстаў, журналістаў, гісторыкаў і г.д. фарміруе грамадскую думку, стварае праблему „крэсаў“, і прычынай таму не толькі шавіністычныя настроі, але й чыста палітычны інтарэс; пасля падзення камуністаў трэба новая праблема, якая б прыцягвала ўвагу шырокіх колаў насельніцтва, гуртавала народ вакол касцёла і ўлады. Былыя асаднікі, ветэраны АК ды проста польскія нацыяналісты ствараюць розныя фонды й арганізацыі, якія займаюцца „крэсамі“. Улічваючы, што шмат хто з гэтых людзей быў у апазіцыі да камуністаў, ясна, што яны маюць уплыў на польскі ўрад ды дзейнічаюць пры яго згодзе.

Спецыяльна „крэсамі“ ды працай там займаецца Таварыства прыяцеляў Вільні і Гародні, якое мае свой друкаваны орган „Гонец крэсовы“, а таксама іншыя выданні. Ёсць звесткі, што нядаўна паўстала Таварыства аматараў Беларусі. Аб тым, што іх ідэі ў польскім грамадстве сустракаюцца з прыхільнасцю, сведчаць дэманстрацыі, якія адбыліся ўлетку ў Варшаве і Гданьску з удзелам тысячаў людзей (у тым ліку моладзі) з лозунгамі аб далучэнні „крэсаў“ да Польшчы.

З часам польская экспансія можа даць на Беларусі свае парасткі. Ужо зараз рыхтуюцца кадры будучых дзеячаў з моладзі, якая атрымала стыпендыі ў польскіх універсітэтах. Працягваецца наплыў ксяндзоў на Беларусь. Яны адкрыта кажуць: „Ваша ўлада — у Польшчы“.

Савецкае пасольства ў Польшчы, якое, натуральна, інфармавана аб антыбеларускіх настроях ды акцыях, чамусьці ніяк на тое не рэагуе. Зрэдку ў савецкім друку пішацца аб „антырасейскіх“ настроях у Польшчы, хаця найперш прапаганда ідзе антыбеларуская. Не заўважыць яе нельга — яна відавочная, варта толькі пачытаць газеты, паслухаць радыё і г.д.

Напэўна, сачыць за падзеямі і збіраць інфармацыю магло б консульства Беларусі ў Варшаве, калі б яно было зарганізавана.

Так ці інакш, але відавочна адно: беларусы павінны дзейнічаць, не маўчаць.

**Юрась Закрэўскі**

(„Літаратура і мастацтва“ № 3 ад 22 лютага 1991 г.)

# Зорка
## Старонка для дзяцей




Мая вёска — Кнаразы. Малюнак Дарка Філімонюка.

Аляксей Дудараў




У ціхай лагчыне, пад старой разгалістай вярбой, жыла маленькая чыстая крынічка. Яе звалі Сінявочка. Крыштальная вадзіца ўдзень і ўночы, улетку і ўзімку бруілася з Сінявочкі, бы нітачка-ручаінка, і збягала ў Зялёную Сажалку, што жыла па суседству. Пухнатыя воблакі кожную раніцу, бы ў люстэрка, пазіралі ў Сінявочку, прыхарошваліся і, перш чым плыць у свае далёкія падарожжы, заўсёды гаварылі:

— Ах, якая прыгажуня гэта Сінявочка! Такая цудоўная, такая празрыстая!

У спякотныя летнія дні ў крынічцы купалася Сонейка, ноччу на паверхні вады разам з зорачкамі адпачываў вастрарогі Месяц. Сінявочка была вельмі добрая, яна з усімі сябравала, і кожны, хто толькі захоча, мог падысці і напіцца яе срэбнай халоднай вадзіцы... За гэта ўсе птушкі і звяры, што жылі ў лагчыне, любілі Сінявочку. І яшчэ яе любілі за тое, што ў начны супакой сваім звонкім голасам крынічка спявала песні... Нават самы дзівосны спявак — Салавей і той прылятаў да крынічкі, садзіўся на ніжнюю галінку старой вярбы і слухаў, як Сінявочка спявае:

Цюр-лі, цюр-лі ля лоз
Струменіцца вадзіца,
У спёку і ў мароз
Прыходзь сюды напіцца...

Вось толькі адна Зялёная Сажалка не любіла Сінявочку. А злавала на крынічку за тое, што да яе ўсе прыходзяць, з ёю сябруюць, а Зялёную Сажалку і не заўважаюць нават. Ды і не любяць!

— Ква-ква-ква! — зарагатала вясёлае Жабяня, калі Зялёная Сажалка паскардзілася яму. — За што цябе любіць? Сама вунь нікога не любіш!

— Мала што! — адказала капрызная Зялёная Сажалка. — Не люблю, а мяне хай любяць...

— Гэтак не бывае, — сказала Жабяня. — І не будзе! Сінявочка дык вунь добрая і ласкавая... Спявае для ўсіх, усіх у госці запрашае. А ты? Зялёнае слізкае павуцінне апранула на сябе, ваду схавала, усіх сваіх жыхароў прагнала прэч... Стары Карась і той уцёк ад цябе.

— Змоўкні, плюгаўка! — злосна закрычала на яго Сажалка. — Расквакалася тут! Я ўсё роўна лепшая за вашу мізэрную Сінявочку. У мяне вада цёплая, а яна лядзяш...

— Ква-ква-ква! — зноў зарагатала Жабяня. — Гэта яна летам, у спёку, халодная, а зімой — цёплая... А з цябе вунь бурбалкі ідуць... Ква-ква-ква!

Зялёная Сажалка ўсхадзілася не на жарт.

— Калі захачу, — пагрозліва прамовіла яна, — то ад вашай Сінявочкі і знаку не застанецца.

— Дурніца! Сінявочка з Сонейкам сябруе. Яно цябе як прыпячэ, дык за адзін дзень высахнеш ушчэнт.

— Не высахну! Я вялікая!

— Высахнеш... Ты вялікая таму, што цябе вадой Сінявочка поіць, а так бы... Ква-ква!

— Ідзі адсюль! — сярдзіта булькнула на яго Сажалка.

— Ква на цябе! — адказала Жабяня і паскакала далей.

А злая Зялёная Сажалка задумала чорную справу.

Цёмнай ноччу, калі Сінявочка праспявала сваю песеньку і задрамала, Зялёная Сажалка ўзяла сваё слізкае павуцінне, спляла з яго цяжкі нерат, употайкі падкралася да крынічкі і ўскінула на яе... Апляла і заблытала. У гэтую ноч над лагчынай вісеў густы туман, і ўсе сябры Сінявочкі не бачылі таго, што зрабіла Сажалка, і не змаглі прыйсці на дапамогу крынічцы.

Ранкам, калі сонейка прагнала прэч туман, калі прачнуліся звяры і птушкі, усе здзівіліся, што ў лагчыне не чутно песенькі Сінявочкі... Белыя воблакі шукалі сваю сяброўку, шукаў спявак Салавей, шукала вясёлае Жабяня, але Сінявочкі нідзе не было відно. Зялёнае павуцінне Сажалкі прыціснула яе да зямлі і схавала...

Як ні білася крынічка, як ні спрабавала выбрацца з-пад нерата да сваіх сяброў, але ўсё было марна. Толькі некалькі кропелек прасачылася праз слізкае павуцінне, але ўсе палічылі гэтыя кропелькі за расу.

І вось Сонейка паднялося высока і таксама пачало шукаць сваю сяброўку. Яно так пільна

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Станіслаў Шушкевіч

### ХОДЗІЦЬ КОЦІК ПА СТРАСЕ

**Ходзіць коцік па страсе,**
**Мокрай лапкаю трасе.**
**І злуецца, варкатун,**
**На свой лёс, на макрату.**
**Дайце коціку спакой.**
**Быў ён сёння над ракой,**
**Усю ноч сядзеў дарма,**
**Над вадою задрамаў.**
**Пэўна, сніў ён карасёў.**
**Сон варкоціка падвёў,**
**Паляцеў ён патырча**
**З абымшэлага карча.**
**Гляньце, лапкаю трасе**
**Шэры коцік на страсе.**

### ЦЕМРАЛЮБЫ

**Чорны крот баіцца сонца,**
**Мае хату без аконца.**
**Нават дзверы, уваход**
**Зачыняе шчыльна крот.**
**Цёмнай ночкай каля хаты**
**Ціха скачуць крацяняты,**
**Ім зайздросцяць кажаны —**
**Нізка кружацца яны.**
**Кажаны гуляюць ў жмуркі**
**Там, дзе цёмныя падмуркі.**
**У гушчарніку яловым**
**Ноччу ў цемры скачуць совы.**
**Савяняты, сычаняты,**
**Кажаны і крацяняты**
**Толькі ночкаю гуляюць,**
**Толькі ночку паважаюць.**

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

87

Горад ад сцягоў чырвоны.
Спевы, музыка, калоны...
Тата шар мне даў: „Трымай" —
Сёння свята ...

88

То ціхмяны, то ўзвіваецца.
Не сабака, а кусаецца.
Паказвае языкі.
Адгадайце, хто такі?

89

Яно слізгае ў руках,
Мае асаблівы пах.
У ваду як пападае,
Паступова прападае.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 84. Светлафор. 85. Паштовая скрынка. 86. Газ.

Адказ на загадкі: 87. Першамай. 88. Агонь. 89. Мыла.

**Да пабачэння. Зайка-загадайка!**



*Пушок Марты Філімонюк з Хрыбалоў.*

## малюнкі школьнікаў



*Малюнак да казкі „У страха вочы вялікія“. Пётр Бачынскі, III клас школы ў Чыжах.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

220004, БССР, г. Мінск, вул. Няміга, д. 12, кв. 103. **Забродская Оля.** (12 гадоў, любіць маляваць і музыку).

* * *

220053, БССР, г. Мінск, вул. Вазёрная, д. 13, кв. 2. **Таяновіч Наташа.** (12 гадоў, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай, якая ведае рускую мову).

* * *

220082, БССР, г. Мінск, вул. Лесі-Украінкі, д. 4, к. 1, кв. 365. **Насця Васільева.**

* * *

БССР, г. Мінск, вул. Сердзіча, д. 13, корп. 3, кв. 24. **Оля Фішкіна.** (VI клас).

* * *

220047, БССР, г. Мінск, вул. Несцерава, д. 86, корп. 2, кв. 64. **Таня Ждан.** (14 гадоў, любіць чытаць, маляваць, слухаць музыку, добра вучыцца).

## Вершы Віктара Шведа

### ПАСЛЯДОЎНЫ

**Злуе надта маці,**
**Бачыць непаладкі:**
**Сын сядзіць у хаце,**
**Замест на занятках!**

**— Сказала нам пані, —**
**Азваўся Мікола, —**
**Не зрабіў задання —**
**Не прыходзь у школу.**

### ЛЁС ПРОДКАЎ НЕ БЫЎ САЛОДКІ

**— Цікава, як тут на зямлі**
**Шматлікія ўсе продкі**
**Без тэлебачання жылі?**
**Не быў іх лёс салодкі!**

**— Быў вельмі сумны тады час,**
**Хоць умірай ты з жалю.**
**Няма ж і продкаў паміж нас,**
**Усе ўжо паўміралі.**



## СІНЯВОЧКА

**(Працяг са стар. 9)**

ўглядалася ў лагчыну, што берагі Зялёнай Сажалкі адразу ж пачалі сохнуць, а яна сама малець проста ў вачах...

— Вой! — залямантавала Зялёная Сажалка. — Вой, ратуйце! Паміраю! Дапамажыце! Не буду больш! Даруйце!

Але ніхто яе не слухаў і ніхто не ішоў на дапамогу фанабэрыстай і нядобрай Сажалцы. Усе шукалі крынічку і не маглі знайсці.

На шчасце, тым цёплым ранкам ішлі паўз лагчыну ў лес па грыбы хлопчык і дзяўчынка.

— Дзіўна! — сказаў хлопчык, калі яны праходзілі каля Сінявочкі. — Тут жа, ля вярбы, павінна быць крынічка, а яе чамусьці няма...

— Гэта тая, якую завуць Сінявочкай? — спытала дзяўчына.

— Тая. Але дзе ж яна?

— Давай пашукаем. — Яны паставілі на сцяжынцы свае кошыкі і пачалі шукаць крынічку. Абышлі вакол старой вярбы.

— Вось, вось яна! — радасна запляскала ў ладкі дзяўчынка...

— А мы зараз яе вызвалім! — сказаў хлопчык і ўчапіўся за слізкі нерат Зялёнай Сажалкі. — Фу, брыдота нейкая... Дапамагай...

І яны разам пачалі аддзіраць ад беднай крынічкі брыдкі нерат... Той супраціўляўся, чапляўся за берагі Сінявочкі, але ўрэшце затрашчаў, і крынічка вызвалілася.

Блакітная свежая вадзічка зноў заіскрылася пад Сонейкам... Хлопчык і дзяўчынка кінулі слізкае павуцінне назад у перасохлую Сажалку, выцерлі аб траву рукі, напіліся з Сінявочкі чысценькай вадзічкі, узялі свае кошыкі і пайшлі ў лес...

А вольная Сінявочка зноў заспявала сваю вясёлую песеньку.

##  ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

### ПРАСЯНКА

Прасянка — гэта птушка сям'і аўсянкавых атрада вераб'інападобных. Жыве ў Еўразіі і Паўночнай Афрыцы. На Беларусі рэдкі гнездавальны від. Прасянка жыве на палях, сухадольных лугах з хмызняковымі зараснікамі, каля вёсак. Прасянка корміцца пераважна насеннем раслін, парасткамі, знішчае шкодных насякомых і насенне пустазелля. Прасянка ахоўваецца.

Даўжыня цела прасянкі — 17,5—19 см, маса да 60 г, апярэнне аднастайна-шэрае, з белавата-брудным горлам, грудзьмі і брушкам, бурымі падоўжнымі стракацінамі. Крык прасянкі — рэзкае „цык-цык“. Шлюбная песня кароткая — прыглушанае верашчанне, чутнае толькі на блізкай адлегласці. Прасянка ўе гняздо на зямлі са сцяблінак і лісця дзікіх злакаў. Яйкі кладзе двойчы за год, у кладцы 4—5 яек колеру гліны з цёмнымі плямамі, крапінкамі і завітушкамі. Свежыя яйкі першай кладкі — у другой палавіне мая, часам пазней, другой кладкі — у другой палавіне ліпеня. Падлеткі — адпаведна ў першай палове чэрвеня і ў першай дэкадзе жніўня.

Прасянка ў канцы лета чародкамі вандруе па палях, зімой з аўсянкамі і вераб'ямі набліжаецца да жылля.



## Вучнёўская творчасць

### КРЫЛАТЫ КОНЬ

**Я жыву ў вялікім доме,**
**А са мной — крылаты конік.**
**Ён ведае ўсе гарады на зямлі,**
**Усе рэчкі і ўсе лугі,**
**Усіх звяроў у зялёных барах,**
**Ва ўсіх далінах і высокіх гарах.**
**Штодзень, калі ўзыходзіць сонца,**
**Ён на прагулку вылятае,**
**Хоць вельмі доўгая дарога,**
**Ён не змучаны ні трохі.**
**А калі вечарам шчаслівы**
**Вяртаецца ў сваю хаціну,**
**То з'еў бы сто гаршкоў аўса!**
**А ўсё гэта, верце мне,**
**Я бачу праз акно маё,**
**І не магу я вам сказаць,**
**Чаму ён робіць так штодня,**
**Бо гэта выдумаць — вельмі цяжка.**

**Марта Дзмітрук**

### СЯБРОЎКІ

**Былі сабе сяброўкі дзве,**
**Адна ад другой не адступіць нідзе.**
**Раз здарылася бяда такая:**
**Аня забылася вывучыць урок.**
**Франя, як Франя — нікому не падпявае.**
**І так прапала сяброўства ў бядзе.**

**Бася Зінкевіч**
**VI клас, школа ў Малінніках**

**Янка Золак**

### ХЛЕЎНЫЯ ЖЫВЁЛЫ

Урок па прыродазнаўству ў першым класе. Тэма: „Дзікія і хатнія жывёлы“.

Настаўніца паказвае малюнкі ваўка, мядзведзя, вавёркі, ліса, зубра, пытаецца, як называецца кожная з тых жывёлаў. Дзеці адказваюць.

— А якія гэта жывёлы? — пытаецца настаўніца. — Хатнія, ці дзікія?

— Дзікія! — хорам адказваюць дзеці.

— Правільна, — хваліць настаўніца і паказвае малюнкі каня, каровы, авечкі, свінні, сабакі і ката, пытаецца, як кожная з гэтых жывёл называецца, дзеці адказваюць.

— А гэтыя жывёлы таксама дзікія?

— Не, не дзікія.

— А якія? Хатнія?

— Не ўсе хатнія, — адказвае Паўлік.

— Каторыя з іх хатнія? — пытаецца настаўніца.

— Кот, — адказвае Паўлік.

— А конь, карова, авечка, свіння? Ці ж гэта не хатнія жывёлы? — здзіўляецца настаўніца.

— Не! Гэта хлеўныя жывёлы!

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



*Знайдзі на малюнках 10 адрозненняў.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

